# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 23 (2217) 6 чэрвеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.


## КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ У МІНСКУ





Тры дні, 25—27 мая, у Мінску працаваў Міжнародны кангрэс беларусістаў. Упершыню ў гісторыі даследчыкі беларусікі з усяго свету здолелі сабрацца разам, каб распачаць дзейнасць Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. У працы кангрэса прымалі ўдзел даследчыкі больш чым з 10 краін.

У наступным нумары чытайце матэрыял пра тое, як праходзіў кангрэс, і пра яго ўдзельнікаў.

НА ЗДЫМКАХ: "круглы стол" "Беларуская дыяспара"; карэспандэнт беларускай службы радыё Ватыкана Я. МОЙСІК; дырэктар Беларускага інстытута навукі і культуры ў Нью-Йорку В. КІПЕЛЬ, старшыня БГКТ у Беластоку А. БАРШЧЭЎСКІ, пісьменнік Я. ЧЫКВІН.

Фота С. КРЫЦКАГА.



*МАНАЛОГ АКЦЁРА НА ВОЛЬНУЮ ТЭМУ*

# "ПАЛЮБІ СВАЕ КАЙДАНЫ..."

**Я прыйшла на дамоўленую сустрэчу з вядучым акцёрам мінскага рускага драматычнага тэатра імя Горкага Расціславам Янкоўскім, прыгатаваўшы, як належыць, шэраг пытанняў. Але Расціслаў Іванавіч раптам узарваў усю запланаваную драматургію інтэрв'ю імклівай яркай імправізацыяй. Тэмы? Яны вакол нас.**

**Пераканалася ў сіле неабыякавасці, уласцівай Янкоўскаму. Менш за ўсё, мне здаецца, гэты чалавек здольны велічна замкнуцца ў нейкай вежы з слановай косці, хаця становішча прызнанага карыфея ў сваёй прафесіі, высокія званні і ўзнагароды, безумоўна, даюць яму такую магчымасць. Але, відаць, справядлівая думка, выказаная некалі ў крыху рамантычным плане: калі свет раскалоўся, трэшчына праходзіць цераз сэрца мастака. Наш свет, на жаль, расколваецца штомінутна.**

**Давайце паслухаем Расціслава ЯНКОЎСКАГА. Ён "іграе" не Воланда ці Макбета, а самога сябе.**

...Цяпер як ніколі многа гавораць аб дэмакратыі. Маўляў, ёй пагражае Прэзідэнт, ваенныя. Вядома, не дай Бог, калі ваенныя прыйдуць да ўлады. Але з дэмакратыяй, на жаль, здарылася іншая бяда: яна трапіла на згвалтаванне людзям з вельмі нізкай культурай. Я цудоўна разумею: трэба ўсіх накарміць, і адразу адпадуць 80 працэнтаў нашых праблем. Але калі справа толькі ў каўбасе і гарэлцы — тады гэта проста жывёльнае існаванне, і надзея на дэмакратыю — блеф. Яна немагчымая па-за культурай.

Нічога нельга дасягнуць адным махам. Вось Прыбалтыка. Гэтыя рэспублікі аддзяляюцца, будуць самастойнымі. Але яны хочуць зрабіць гэта занадта паспешліва, неадкладна. Усё даведзена да абсурду, да абвастрэння, да крыві. Напэўна, з часам добрыя адносіны аднавяцца, будзе гандаль, культурны абмен. У мяне ў Прыбалтыцы мноства сяброў. Страшна, калі нагнятаецца нецярпімасць з абодвух бакоў. Вось парадокс: літаральна ўсе, хто гаворыць пра палітыку, здаюцца пераканаўчымі. Як паслухаеш — той мае рацыю і гэты таксама. А прыглядзішся — адзін стараецца прабіцца вышэй, ламаючы ўсё навокал, у другога мэты таксама зусім зямныя. Між партыямі цяпер такая барацьба за ўладу, такая несумленнасць чалавечая праяўляецца!

Я хачу жыць у Саюзе, няважна, як ён будзе называцца, у брацтве, у дружбе з іншымі народамі. Рады, што ўсюды існуе павага да беларусаў, думаю, за кошт нашай стабільнасці, чалавечай мудрасці, нават хітрасці, без крайнасцей, хаця ёсць і ў нас экстрэмісты. У нашым беларускім парламенце дзейнічае апазіцыя, яна абуджае, падштурхоўвае думку. І гэта добра. Але эмацыянальнасць падводзіць моцна. А павінна быць болей дабрыні. Дакладны спакойны розум і сумленне.

Чалавек жыве ілюзіямі. Многія лічаць: грошы — галоўнае. Плаці больш — і ўсе пачнуць працаваць лепш. А я цвёрда перакананы: хто добра працаваў за малую плату, будзе старацца і за большую. А лайдак і прахадзімец і па высокай расцэнцы пагоніць брак. І апошніх у нас хоць гаць гаці. Людзі развучыліся працаваць. Паспрабуй палюбі свае кайданы — гаспадарку, зямлю, працу ад зары да зары. Цяпер, у лепшым выпадку, гавораць так: мне гэтых чатырох сотак хопіць, пражыву як-небудзь. Так, я жабрак. Ну і што? Пахваляюцца беднасцю!

Я быў на Волзе. Бачыў многа неапрацаваных зямель. І неяк у размове сказаў аднаму чалавеку: "Пасадзіў бы сад!" А ён адказвае: "Мяне Волга корміць. А вунь, за спіной, — лес".

Не веру ў стараннасць людзей, выхаваных калгасам. Яны ведаюць: прыедуць гараджане і збяруць ураджай. Так пабудавана гаспадарка. Хіба што моладзь стане рызыкаваць і возьме зямлю, паехаўшы з горада ў вёску...

Напэўна, рынычныя адносіны — самыя дакладныя, гэта свет даказаў. Ды вось мы ў іх не разбіраемся. На такі "рынак" натыкаешся часам, што валасы дыба ўстаюць. Ён палохае, азлабляе, адштурхоўвае. І такога рынку ўжо не захочаш, нягледзячы на запэўніванні эканамістаў. На нашым рынку перамагаюць грабеж, мана, ірвацтва і іншая мярзота. Размеркаванне яшчэ неяк трымала людзей, да яго прывыклі. І гарэлка была, за ёю не душыліся ў чэргах. Напэўна, усё арганізуецца. Але мне цяпер цяжка зразумець словы "народ мудры". Гэтай нацыянальнай рысы я, на жаль, нідзе не заўважаю. Мудрасць нейкая ці агульнарэспубліканская, ці агульнаабласная, але ніяк не агульнанародная. На трыбунах у час мітынгаў — крык, гэта таксама далёка ад мудрасці.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*УЗНАГАРОДЫ*

## МЕДАЛЬ ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ

**За вялікі ўклад у беларусазнаўства, актыўную папулярызацыю беларускай мовы і літаратуры Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны прафесар Варшаўскага універсітэта А. Баршчэўскі, прафесар Лонданскага універсітэта Дж. Дзінглі і прафесар Карлава універсітэта ў Празе В. Жыдліцкі.**

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА СПАД

**За мінулыя месяцы бягучага года грашовыя даходы насельніцтва павялічыліся на 34 працэнты, у красавіку яны ўзраслі ў паўтара раза. Сума сродкаў, што накіроўваюцца на спажыванне, у разліку на аднаго работніка, павялічылася на 24 працэнты. У 1,9 раза ўзрос прыбытак прадпрыемстваў і арганізацый (без сельскай гаспадаркі, спажывецкай кааперацыі і дзяржстраху).**

**Разам з тым у рэспубліцы працягваецца спад грамадскай вытворчасці. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года знізіўся нацыянальны даход, упала вытворчасць працы. Значна скараціўся аб'ём бытавых і платных паслуг у супастаўных цэнах. З 169 важнейшых відаў прадукцыі зніжэнне вытворчасці дапушчана па 112 відах. Пра гэта паведамляе Дзяржаўны камітэт па статыстыцы Беларускай ССР.**

*ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

## ЧЫМ ЗАНЯТЫ ДЗЕЦІ

**За суткі супрацоўнікі мінскай міліцыі раскрылі 8 злачынстваў, учыненых раней. Здзіўленне выклікае састаў злачынцаў. З 11 чалавек толькі адзін дарослы. Яму 21 год, ён нідзе не працуе з ліпеня 1989 года. Астатнія 10 — непаўналетнія. У іх ліку адзін — 17-гадовы, сем чалавек ва ўзросце 15—16 гадоў, два — 13—14 гадоў. З 10 падлеткаў толькі 6 вучацца ў сярэдніх школах горада, чацвёра доўгі час не працуюць і не вучацца.**

*УРАЧЫСТАСЦІ*

## ПАМЯЦІ СВЯТЫХ КІРЫЛЫ І МЯФОДЗІЯ

**Памяць святых роўнаапостальных братоў Кірылы і Мяфодзія, першанастаўнікаў і асветнікаў славянскіх, ушаноўвалася 24 мая Беларускай праваслаўнай царквой. Гэта дата была адзначана ўрачыстасцямі ў гонар славянскага пісьменства і культуры, якія праводзіліся ў многіх гарадах рэспублікі.**

**У гэты дзень мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі, адслужыў боскую літургію ў царкве, асвячонай у імя святых Кірылы і Мяфодзія, размешчанай у крыпце Мінскага кафедральнага Свята-Духава сабора.**

**Мітрапаліт Філарэт усклаў кветкі да мемарыяльнага знака з адлюстраваннем святых Кірылы і Мяфодзія ў Мінску на вуліцы, якая носіць іх імя.**

*РАДЫЕФОБІЯ*

## ХТО ЗАСТАНЕЦЦА?

**Мяркуючы па даных праведзенага сацыялагічнага апытання, толькі пятая частка жыхароў Гомеля не мае намеру расстацца з роднымі мясцінамі. Амаль 50 працэнтаў чакаюць толькі магчымасці пакінуць горад, які падвергся радыеактыўнаму забруджванню. Вельмі многія імкнуцца вывезці ў іншыя раёны хаця б сваіх дзяцей. Каля 80 працэнтаў апытаных называюць фактар, які найбольш адмоўна ўплывае,— радыяцыйны. Яшчэ большая колькасць рэспандэнтаў лічаць, што іх здароўе пагоршылася пасля чарнобыльскай аварыі. Пры гэтым на дапамогу Гомельшчыне спадзяюцца ўсяго 5,4 працэнта ўдзельнікаў апытання.**

*МАГАЗІН ПРАВАСЛАЎНАЙ ЛІТАРАТУРЫ*



**У Мінску па вуліцы Прытыцкага адкрыўся новы кніжны магазін. Тут упершыню ў рэспубліцы арганізуецца цэнтралізаваны продаж праваслаўнай літаратуры, якую рэгулярна будзе пастаўляць Мінскае епархіяльнае ўпраўленне. Асвячэнне новай кнігарні праводзіў свяшчэннік Мінскага кафедральнага Свята-Духава сабора айцец ІГАР (на здымку), які прысутнічаў на адкрыцці магазіна.**

*"Пры ўсёй сваёй грубасці, амаральнасці і недалёкасці афіцыйная прапаганда ўсё ж нясе ў сабе хітры псіхалагічны зарад. Стаўка зроблена на масавае ўспрыняцце, ахлакратыю, штучнае паніжэнне, люмпенізацыю грамадства. Прымітыўна — затое дзейсна. У выніку ўся наша сацыяльна-маральная прастора перапоўнена хлуснёй, яна проста вісіць у паветры, гэту агіднасць адчуваеш фізічна. Людзям стварыць такую атмасферу немагчыма — тут сатанінская праца, таму нармальная псіхіка такога ніколі не родзіць. Бяда: абалваненыя людзі не могуць зазірнуць у сутнасць з'явы, сістэмы, не паднімуцца крыху вышэй звычайных уяўленняў — няма веры...*

*Аб тым, што адбываецца ў сферы сацыяльнай псіхалогіі, ніколі не размаўляю, але ацэнку прагрэсіруючага працэсу маю: гэта страшней за камунізм. Мяркуйце самі: адкрыта вядзецца праграміраванне цэлай нацыі, на вачах разбураюцца чалавечыя душы... Жах: замест суда Кашпіроўскага з камандай носяць на руках! У нармальных краінах дайшлі да разумення прыхаванай тут небяспекі, адпаведныя пытанні адлюстраваны ў заканадаўстве... Ёсць, вядома, свае мінусы, і ўсё ж там разбіраюцца, што такое гіпноз, экстрасенсорыка. Тут як з парнаграфіяй: так, на Захадзе і "Плейбой", і дамы з чырвонымі ліхтарамі, і секс-шопы — але ўсё гэта не разломлівае іх грамадства! А ў нашай адсталай, бязбожнай краіне, дзе пачуцці не выхаваны, дзе розум — як прасавальная дошка — толькі з некалькімі няхітрымі звілінамі — вось дзе раздолле ўсяму цёмнаму, яно адразу ўспрымаецца, толькі пусці яго! Не можа чалавек быць пустым, не можа! Ці Бог будзе ў душы, ці Сатана. Трэба раз і назаўсёды зразумець: без культурнага, маральнага, вольнага чалавека немагчымы ніякая эканоміка, ніякія рэформы, ніякая цывілізаванасць — нічога не адродзіцца".*

*(З інтэрв'ю З. ПАЗНЯКА газеце "Свободные новости").*

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

● Сёлета мае быць завершаным падворнае абследаванне ўсіх населеных пунктаў Магілёўскай вобласці ў зонах забруджанасці ад 1 да 15 кі/км$^2$. Дзеля гэтага Белгідрамету выдзелена з саюзнага бюджэту каля 14 мільёнаў рублёў.

● Стыпендыю імя Язэпа Драздовіча Віцебскае аддзяленне Беларускага фонду культуры прысудзіла 12-гадовай школьніцы з Гродна Тані Тарасенка. Стыпендыя даецца за развіццё забытых і існуючых яшчэ традыцый і промыслаў. А дзяўчынка хутка і спрытна пляце арыгінальныя паясы для народных строяў.

● За два папярэднія гады ў Пінску, на вуліцах і плошчах горада, было высаджана 28 тысяч руж. Сёння ж засталося толькі 8 тысяч — астатнія параскрадалі "аматары" каралевы кветак. Гарадской казне нанесены ўрон на 80 тысяч рублёў.

● У Салігорску гарадскі клуб аматараў сабак "Бары" адкрыў спецыяльную гасцініцу. У ёй гаспадары могуць на нейкі час пакінуць сваіх гадаванцаў — у водпуск ці камандзіроўку цяпер можна ехаць спакойна.

*З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ*

## ШЛЯХ – НА БІРЖУ



14 мая 1991 года ў сталіцы Беларусі было зарэгістравана акцыянернае таварыства Мінская біржа. Сталася гэта ўпершыню пасля Вялікай Айчыннай вайны, а вось да першай сусветнай у тагачасным Мінску пад шыльдай гандлёвых дамоў дзейнічалі 38 акцыянерных таварystваў. Мінская ж Лясная біржа лічылася буйнейшай у дзяржаве. Але хутчэй не столькі ў гісторыі, колькі ў надзённасці, сучасным стане развіцця гаспадарчых адносін можна знайсці перадумовы з'яўлення гэтай біржы, яшчэ аднаго "дзіцяці" пераходнага да рынку перыяду. На прэс-канферэнцыі, прысвечанай яго "нараджэнню", было адзначана, што ў СССР створана каля 220 такіх устаноў, з іх пяць — у Беларусі. Гэта пры тым, што ў 1927 годзе ва ўсім свеце статыстыка зафіксавала адно 150...

107 фундатараў як беларускага, так і расійскага паходжання — Саветы народных дэпутатаў горада і яго раёнаў, банкі, заводы, кааператывы сталі акцыянерамі Мінскай біржы. А таксама прыватныя асобы, якія пажадалі застацца невядомымі шырокай публіцы. Хоць бы таму, што намінальны кошт адной акцыі — 50 тысяч рублёў. Увесь уступны фонд склаў 7 мільёнаў 750 тысяч рублёў.

Мэты і задачы, якія стаяць перад таварыствам, былі сфармуляваны падчас сустрэчы Уладзімірам Карагіным, сустаршынёй біржавога савета, дэпутатам Мінгарсавета, і зводзіліся да наступнага: аказваць садзеянне ў гандлі кааператывам, малым прадпрыемствам, аб'яднанням. Наладзіць работу шматлікіх брокерскіх кантор.

Якім жа таварам пры цяперашнім татальным дэфіцыце збіраюцца гандляваць біржавікі? Звышпланавай прадукцыяй? З іх адказаў вынікае, што продажу падлягае ўсё, у чым ёсць зацікаўленасць кліентаў. Прадугледжваецца і купля-продаж каштоўных папер. Праўда, урадавая праграма па выхаду з крызісу забараняе такі від камерцыі, але яна, праграма, яшчэ не прынята.

Лагічным для прысутных было і пытанне, да якога ж выніку прывядзе дзейнасць біржы ў адносінах стабілізацыі цэн? Раман Загорын, член біржавога савета, генеральны дырэктар фірмы "Ранар", названы ў канферэнц-зале першым беларускім брокерам і ініцыятарам заснавання Мінскай біржы, мяркуе:

— Публічны гандаль заўжды спрыяе стабілізацыі цэн. Менавіта біржа ўсталёўвае сапраўдную цану тавару, якая будзе дыктавацца толькі попытам і прапанаваннем. Вопыт Расіі паказаў, што актыўная работа брокерскіх кантор прыводзіць да таго, што дробныя пасрэднікі, часткова дзякуючы каторым і растуць цэны, выпадаюць з гэтай сістэмы.

Палітыка біржы, як запэўнілі яе кіраўнікі, не будзе і не можа ісці насуперак палітыцы Вярхоўнага Савета БССР і Саўміна, якая скіравана на тое, каб як мага больш070 рознай прадукцыі заставалася ў межах рэспублікі. Біржа не можа інакш, толькі як кіраваць і паважаць існуючыя пастановы і законы. Усе падатковыя паступленні ад здзелак — вялікая крыніца папаўнення дзіравага дэфіцытнага бюджэту як горада, так і рэспублікі (У. Карагін). У нашых інтарэсах захаваць агульную эканамічную прастору. Напрыклад, нядаўна мы прадалі партыю масла з Калінінграда ў Арменію, збожжа з Украіны ў Расію. У чым справа? У заканадаўстве. У Расіі ёсць палажэнне, згодна якому тавары, атрыманыя звыш дзяржзаказа, праходзяць па свабодных цэнах. У нас такога яшчэ няма (Р. Загорын, брокер і Маскоўскай, і Расійскай біржаў).

Можна вылучыць дзве акалічнасці, якія надаюць непаўторную адметнасць гэтай біржы: само стварэнне яе ў рэкордна кароткі тэрмін, тры дні, і, галоўнае, удзел у гэтым бізнесе афіцыйных органаў улады. На апошняе адразу звярнулі ўвагу прадстаўнікі друку. Ці нармальна гэта? У. Карагін лічыць, што нармальна. Мінгарсавет такім шляхам будзе атрымліваць фіксаваны працэнт ад даходаў, які потым пойдзе ў адзін з ягоных фондаў, не інвесціраваўшы ні адзінай капейкі ва ўступны ўзнос, але аказаўшы дужа значную дапамогу на арганізацыйнай стадыі. Гэты ж прамоўца закрануў і яшчэ адну тэму. Так сталася, што ў дзень правядзення прэс-канферэнцыі, 23 мая, пачала таргі Беларуская біржа, належнасць Дзяржкамітэта па забеспячэнню, узор, па яго словах, дзяржаўнага выбару, "які ажыццяўляе манеўры рэсурсамі, адабранымі сілком у прадпрыемстваў". На яго і думку ягоных калег, Мінская біржа складзе канкурэнцыю Беларускай і адпаведным дзяржаўным структурам. Нават тым фактам, што першая бярэ 0,6 працэнта камісійных (0,2 з прадаўца і 0,4 з пакупніка), другая — 4 працэнты, а трэція — 10 ці 15 працэнтаў.

Як высветлілася, вектар сваіх высілкаў, апроч сказанага, мінскія біржавікі накіроўваюць як на выкуп месцаў на іншых саюзных біржах, так і за мяжу. У гэтым рэчышчы яны маюць вялікі інтарэс і пільную патрэбу ў супрацоўніцтве з замежнымі суайчыннікамі.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

ДА 50-ГОДДЗЯ

ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

# ЧЭРВЕНЬ 1941: ПРОЦІСТАЯННЕ АГРЭСАРУ

Паўстагоддзя мінула з таго ракавога дня 22 чэрвеня 1941 года, а цікавасць да падзей, што былі пасля яго, не згасае. Мы ўсё яшчэ спрабуем больш поўна высветліць, як магло так здарыцца, што вайна праз чатыры месяцы пасля яе пачатку бушавала пад Масквой, а нямецкія арміі разам з войскамі Румыніі, Венгрыі і Фінляндыі, захапіўшы вялікую савецкую тэрыторыю, падышлі да лініі, што цягнецца ад Ленінграда да Растова-на-Доне? Савецкі Саюз жа падрыхтаваў дастаткова сіл і сродкаў для адбіцця нападу Германіі.

Калі ўзяць колькасны бок, то суадносіны сіл бакоў былі прыкладна аднолькавыя. У заходніх прыгранічных ваенных акругах знаходзілася 170 дывізій агульнай колькасцю 2 900 тысяч чалавек. Яны мелі 9 200 танкаў, 8 450 самалётаў і 46 830 артылерыйскіх гармат і мінамётаў. Германія і яе саюзнікі да таго часу разгарнулі супраць СССР дывізію і 18 брыгад агульнай колькасцю 5 500 000 чалавек, 2 800 танкаў і штурмавых гармат, 4 950 самалётаў, 48 тысяч артылерыйскіх гармат і мінамётаў. Але ўжо за тры тыдні вайны савецкія войскі страцілі 3 500 самалётаў, 5 тысяч танкаў, больш за 20 тысяч гармат і мінамётаў. Цяжкія страты панеслі больш 100 дывізій (тры пятыя войскаў, што знаходзіліся ў заходніх прыгранічных ваенных акругах). Група армій "Поўдзень" фон Рундштэта прасоўвалася ў напрамку Кіева з хуткасцю да 20 кіламетраў у суткі, група армій "Цэнтр" фон Бока — каля 30 кіламетраў у суткі, група армій "Поўнач" фон Лееба — 25—27 кіламетраў у суткі. Палітычнае і ваеннае кіраўніцтва Германіі палічыла тады, што Масква ўжо знаходзіцца ў межах дасягальнасці, перамога — блізкая.

У чым жа заключаліся прычыны такіх лёгкіх поспехаў германскіх узброеных сіл?

Успомнім: пасля падпісання 23 жніўня 1939 года пакта аб ненападзенні і сакрэтнага пратакола савецка-германскія адносіны ў кароткі тэрмін сталі дружалюбнымі. У выніку змовы Сталіна з Гітлерам наша краіна атрымала значныя тэрытарыяльныя набыткі. Павялічыліся аб'ём гандлю з Германіяй і крэдыты. Усё гэта парадзіла ў савецкага кіраўніцтва надзею на далейшае супрацоўніцтва з Германіяй у вырашэнні сваіх нацыянальных і міжнародных праблем. Прапанова Гітлера і Рыбентропа Савецкаму ўраду далучыцца да траістага пакта, заключанага паміж Германіяй, Італіяй і Японіяй, умацавала веру Сталіна ў тое, што да дасягнення поўнай перамогі над Англіяй (без чаго быў бы немагчымы падзел англійскіх калоній паміж удзельнікамі траістага пакта) Гітлер не адважыцца адкрываць другі фронт на Усходзе. Ён быў упэўнены, што Германія не пачне вайну супраць СССР, калі апошні не справакуе яе сваімі неасцярожнымі дзеяннямі. Таму Сталін забараніў ваеннаму камандаванню праводзіць якія-небудзь мерапрыемствы па ўмацаванню бяспекі заходняй мяжы Савецкага Саюза, размешчаныя там сілы не былі нават прыведзены ў баявую гатоўнасць.

Нашы войскі, што процістаялі агрэсару, былі разгрупаваны на вялікай тэрыторыі: да 4 500 кіламетраў па фронту і на 400 кіламетраў углыбіню. Большасць дывізій усё яшчэ ўтрымлівалася па штатах мірнага часу, і толькі частка з іх была адмабілізавана поўнасцю. Войскі першага эшалона заходніх ваенных акруг — каля 56 дывізій — былі разгрупаваны на глыбіню да 50 кіламетраў (адлегласць, роўная двухсутачнаму пераходу пяхоты), а нямецкае камандаванне проціпаставіла ім першы эшалон сваіх армій — 103 поўнасцю ўкамплектаваныя дывізіі (з іх 10 танкавых) у кампактных ударных групоўках.

Германская армія, атрымаўшая баявы вопыт у вайне супраць Польшчы і на Захадзе, узначальвалася добра прафесійна падрыхтаванымі афіцэрамі і генераламі. А ў Чырвонай Арміі ў выніку смерчу рэпрэсій, што пранёсся над краінай у другой палове 30-х гадоў, толькі 7 працэнтаў камандзіраў мелі вышэйшую ваенную адукацыю, а 37 працэнтаў не прайшлі нават поўнага курсу ў сярэдніх ваенна-навучальных установах. У пачатку вайны капітаны, якія не камандавалі раней нават батальёнамі, аказаліся на чале дывізій, а людзі, якія не мелі вопыту камандавання дывізіямі, станавіліся камандуючымі арміямі.

Чырвоная Армія, вымушаная адступаць пад націскам нямецкіх войскаў, тым не менш паступова ўзмацняла супраціўленне. У ходзе баёў давялося ёй наганяць упушчанае да вайны, проста вучыцца ваяваць. Ад яе спатрэбіліся сапраўды гераічныя, звышчалавечыя намаганні, каб у выключна цяжкіх умовах, адбіваючы магутныя ўдары нямецкіх войск і іх саюзнікаў, несучы вялікія страты ў людзях, узбраенні і баявой тэхніцы, весці эфектыўныя ваенныя дзеянні, стрымліваць рух ударных груповак праціўніка, абяскроўліваць іх. Праяўляла сябе правіла, выведзенае з вопыту многіх войнаў: папярэднія паражэнні не вядуць да паніжэння сілы супраціўлення войскаў, калі інтарэсы шырокіх слаёў насельніцтва пастаўлены на карту, калі ствараецца пагроза самому існаванню народа, суверэнітэту яго дзяржавы. Ужо ў першыя месяцы вайны выявіліся савецкія камандзіры, здольныя цвяроза ацэньваць абстаноўку, прымаць правільныя рашэнні і браць на сябе адказнасць за іх.

Трэба было разгарнуць шматмільённую армію. Тут мелі месца свае цяжкасці. Амаль з 12 мільёнаў ваеннаабавязаных каля чатырох мільёнаў былі неабучанымі, не мелі нават элементарных ведаў у ваеннай справе. Асабліва вострым быў недахоп кулямётчыкаў, мінамётчыкаў, артылерыстаў, радыстаў, шафёраў, а таксама тэхнікаў і інжынераў.

За першыя восем дзён вайны было прызвана ў армію 5,3 мільёна чалавек, і яе колькасць узрасла да 10 мільёнаў. Але патрабаваліся ўсё новыя і новыя папаўненні. Давялося сфарміраваць яшчэ 60 дывізій і 200 асобных палкоў народнага апалчэння агульнай колькасцю каля двух мільёнаў чалавек. Будучы дрэнна падрыхтаванымі, яны неслі вялікія страты, але змагаліся самаааддана. Усяго ж за перыяд з 22 чэрвеня па 1 снежня 1941 года, акрамя папаўнення войск, што змагаліся, былі сфарміраваны і накіраваны ў дзеючую армію 291 дывізія і 94 брыгады.

Супраціўленне Чырвонай Арміі ўзмацнялася. І тэмпы наступлення нямецкіх войск зніжаліся. Ударная магутнасць наступаўшых нямецкіх войск зніжалася з-за вялікіх баявых страт, адцягнення сіл на ахову камунікацый і замацаванне захопленай тэрыторыі, зношанасці тэхнікі, растраты мотарэсурсаў. Давалі знаць пра сябе і цяжкасці папаўнення войск на тэрыторыі, што ўсё больш павялічвалася, ды і проста стомленасць людзей. 6 снежня наступленне пад Масквой было спынена загадам Гітлера. Але замацавацца на захопленым рубяжы не ўдалося. Пачалося контрнаступленне савецкіх войск. План "маланкавай вайны" быў сарваны. Вайна прыняла зацяжны характар.

**Васілій КУЛІШ,**

**доктар гістарычных навук.**



# У БАКУ АД ВЯЛІКІХ ДАРОГ



**Неяк з-за мяжы прыехаў у Мінск суайчыннік. Зайшоў у рэдакцыю і спытаў, як лепей трапіць на Ігуменшчыну. Малады наш супрацоўнік спачатку разгубіўся: а дзе тая Ігуменшчына?**

**— Там Станіслаў Манюшка, польскі кампазітар, нарадзіўся, — стаў тлумачыць госць.**

**— Вось яно што! Гэта ж Чэрвеньскі раён, адразу і не здагадаешся, — крыху знiякавеў супрацоўнік.**

**Многія нашы землякі, што жывуць цяпер за мяжой, ведаюць гэты раён па старой назве: Ігуменскі павет.**

**Слаўная гісторыя гэтага краю. Бачыў ён і палкі Багдана Хмяльніцкага, і паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, і партызанскія атрады ў гады Вялікай Айчыннай вайны...**





**Чэрвеньскі раён ляжыць у баку ад вялікіх дарог: няма чыгуначных і буйных шасейных магістраляў, але па свайму прамысловаму і сельскагаспадарчаму развіццю знаходзіцца на адным з першых месцаў на Міншчыне. Чатырнаццаць прадпрыемстваў працуюць у раёне. Больш дзесяці замежных краін купляюць іх вырабы. Сушанай бульбай раён забяспечвае гарады Урала і Далёкага Усходу. Акрамя земляробства, жывёлагадоўлі і прамысловасці, тут добра развіта рыбаводства: Мінск амаль круглы год забяспечвае свежай рыбай рыбгас "Волма". Калі паездзіць, пахадзіць па Чэрвеньшчыне, то можна сустрэць шмат цікавых людзей. Тутэйшы каваль можа выкаваць вам "сувенір" — падкову на шчасце, а дзесьці ў лясгасе бондар ахвотна прапануе набыць дубовую бочачку сваёй работы для капусты ці грыбоў.**

**Адным словам, жывуць тут працавітыя, руплівыя людзі: толькі адсеюцца — касьба прыйдзе, пакосяць травы — збажына паспее, а там і бульбу выбіраць трэба... Нялёгка сялянскі хлеб даецца. Але ж, як кажуць, чым цяжэй, тым смачней ён. Перадаюць эстафету хлебароба маладым, тым, хто пакуль яшчэ вучыцца ў школах.**

**Шмат чаго можна расказваць аб Чэрвеньшчыне. Слаўная яна сваёй гісторыяй і днём сённяшнім...**

**НА ЗДЫМКАХ: Вячаслаў ЗАГОЛЬКА і яго жонка Зінаіда працуюць жывёлаводамі ў калгасе імя Фрунзе. А іх дачка Юлька пакуль ходзіць у дзіцячы садзік; Аляксандр Вяргейчык і Васіль Фёдараў — бондары. Каля 800 бочак штомесячна адпраўляюць яны спажыўцам; з задавальненнем наведваюць урокі музыкі хлопчыкі і дзяўчынкі калгаса "Іскра". Вядзе заняткі Мікалай ЗЕМЧАНКА.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**




1

*Все на свете, все на свете знают:*
*счастья нет!*
*И который раз сжимают*
*пистолет!*
*И который раз, смеясь и плача,*
*вновь живут,*
*День как день. Ведь решена задача:*
*все умрут!..*

**А. БЛОК.**

## КВАДРА ПЕРШАЯ

### I

Дробны дождж выбіваў на стрэхах дамоў аднатонную музыку барабана. Асфальт тратуараў блішчэў, як люстра, у якім адбіваліся ногі і фігуры рэдкіх прахожых. Было сумна. Сьлязьлівая чэская восень запанавала на вуліцах Прагі.

У гэты час ніхто не зьвяртаў увагі, што, хлюпаючы па мокраму асфальту дзюравымі ботамі й старонячыся ад усіх, ішоў, наставіўшы каўнер даўгаполай шынелі, высокі, худы, нязграбна складзены юнак.

Тэкст рамана падаецца без правак, у згодзе з аўтарскай воляй.

Рукапіс перапісваўся ад рукі вучнямі В. Вальтара. Просім прабачэння за нерасшыфраваныя радкі (тут і далей заўвагі і каментарыі С . Панізніка).

2

Людзі зьнікаюць як плянэты. Каму якая справа да іншых? Каму цікава запытаць шляхі іншых плянэт-людзей?

Юнак праходзіў па пустынных вуліцах,..каля высокага, каменнага будынка, на дзьвярах якога было напісана: "Беларуская Грамада ў Празе".

Мімаволі юнак застанавіўся каля гэтага надпісу й, нягледзячы на дождж, пачаў углядацца ў літары. Сэрца яго цікала мацней гадзіньніка ў левай кішэні. Ён глядзеў на літары і думаў: "Ці магчыма? Ці магчыма шчасьце?"

Ён ішоў у "Беларускую Грамаду" даведацца, ці дадуць яму стыпэндыю, і... цяпер дрыжэў ад трывогі. Ён успомніў сваё мінулае жыцьцё. Там так мала было шчасьця, так мала сонца саграваў й песьціла яго праменьнямі, што ён больш не верыў шчасьцю... Ён рашыў, што ёсьць пэўны закон жыцьця, які кіруе людзямі, й што гэты закон у адношаньні да яго — закон няшчасьця.

Як які-небудзь хэмік, тэарэтычна ведаючы, што вада ёсьць складнік двух газаў: кісьліку і водзіку, — хоча злучыць іх разам, каб запраўды атрымаць ваду, так гэты юнак, маючы сваю раней загатаваную тэорыю жыцьця, хацеў сяньня практычна праверыць тэорыю.

"Што будзе? — думаў ён, стоячы перад дзьвярамі "Беларускай Грамады ў Празе". — Падцьвердзіцца мая даўнейшая тэорыя ці не?"

І сэрца яго, беднае, маленькае чалавечае сэрца казала: "Не. Няхай лепш не падцьвердзіцца. Няхай лепш зьгіне ўся яго тэорыя, дзіцячая, гімназычная, дурная тэорыя, чым зьгіне стыпэндыя".

Бо што азначала стыпэндыя?

Ён ведаў, што ня толькі ён, але яшчэ чыесьці вочы сачылі за ім з Бацькаўшчыны. Ён ведаў, што

3

чыесьці душы, як радыёхвалі, нясьліся ў начным прасторы й не давалі яму спаць усю ноч: то былі душы яго старыкоў. Ён ведаў, што яны аддалі ўсё, што мелі, каб яго вывучыць, каб працягнуць яго праз гімназію, каб мазолістай рукой стварыць яму лепшае жыцьцё, больш культурнае й прыгожае, чым тое, у якім яны самі жылі... І цяпер стыпэндыя азначала б, што гэтыя высілкі былі не дарэмныя. Але няхай! Няхай нават рушыцца маленькае шчасьце, так бы мовіць, эгойстычнае, прыватнае шчасьце старыкоў. Няхай паплача маці й пакруце вусы бацька, але ёсць яшчэ іншая бяда. Ён зьвязаны з грамадскімі беларускімі арганізацыямі. Дырэктар беларускай гімназіі[1], праводзячы яго ў Прагу, цалаваў яго і казаў: "Ну, вяртайцеся назад толькі прафэсарам. З вас выйдзе добры прафэсар..." І раптам... ня будзе стыпэндыі... Што тады? Ён ня мог прадбачыць усіх вынікаў. Не, гэта немагчыма... Лепш аб гэтым ня думаць.

Ён падняўся па каменных сходах й пастукаў у дзьверы. Маленькая, поўная, з сівымі валасамі чэшка ўпусьціла яго ў чыстую кухню і запытала:

— Вам — старшыню Грамады[2]? На жаль, ён

[1]Дырэктарам Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі быў Ян Ігнатавіч Краскоўскі.

[2]Чэхаславацкая рэспубліка Т. Масарыка з гуманітарных меркаванняў дапамагала ўсходнеславянскай эміграцкай моладзі, а таксама юнакам і дзяўчатам з акупаваных Польшчаю зямель Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі (у тым ліку і беларусам з Латгаліі) набываць прафесіі, назначала стыпендыі для іх у многіх навучальных установах краіны. Старшынёй "Беларускага камітэта" (у тэксце — "Беларускай Грамады ў Празе") быў консул Беларускай Народнай рэспублікі прафесар М. Н. Вяршынін. Герой рамана Тугоўскі ішоў да яго на Вензігаву вуліцу, 4.

4

хворы, ляжыць у пасьцелі й ня можа вас прыняць...

— Я вельмі патрабую пагутарыць з ім, — сказаў юнак. — Можа ён удзеліць мне пару мінут. Пытаньне майго жыцьця й сьмерці...

Прыгожая пані-чэшка, спачуваючы, глянула на яго й задумалася:

— Ну, пачакайце крыху, — нарэшце прамовіла яна. Яна ўвайшла ў бакавыя дзьверы, направа ад уваходу ў пакой старшыні.

— Ваша шчасьце, — сказала яна, выйшаўшы праз хвіліну. — Ён вас прыйме... Заходзьце...

Тугоўскі ўвайшоў, асьцярожна зачыняючы за сабой дзьверы. Старшыня ляжаў на пасьцелі, закутаны коўдрамі. Яго старчаскі, досыць поўны твар зусім не выяўляў тае хваробы, якая чулася ў енках голасу: здавалася, ён енчыць наўмысьля, у той час як твар яго сьвяціўся сваёй заўседнай хітрасьцяй. "Можа быць, гэта дыплёматычная хвароба?" — падумаў юнак.

— А! Грамадзянін Тугоўскі! — прамовіў старшыня, выцягваючы з-пад коўдры сваю пульхлую руку. — Калі ласка, калі ласка, сядайце... Я, ведаеце, прыхварэў крыху... Сядайце, сядайце. Там, — прадаўжываў ён, — з Бацькаўшчыны нават пішуць пра вас. Дырэктар вашае гімназіі прысылае мне сярдзітыя паперы з рознымі пратэстамі.

Патрабуе, каб мы вас улаштавалі на стыпэндыю. Але што мы можам зрабіць, вы самі падумайце...

"Ах, вось ад чаго ты захварэў, ад папераў дырэктара", — падумаў Тугоўскі й услух дадаў:

— Ведама, на Бацькаўшчыне зусім не паінфармаваны аб мясцовых абставінах...

— Мы самі хочам дабіцца для вас стыпэндыю, — прадоўжываў старшыня. — Але гэта не ад нас залежыць. Гэта залежыць ад чэскага ўраду. Мы,

5

на жаль, і дагэтуль для вас не дабіліся стыпэндыі.

— Старшыня нават споўз у аднэй бялізьне з пасьцелі й сеў на крэсла каля пісьменнага стала.

— Вось папера, бачыце. Вы стаіцё ў сьпіску, але вам адмоўлена...

— Чаму? — пабляднеўшы, спытаў Тугоўскі.

— Таму што, калі падаваліся сьпіскі, вас не было ў Празе. Стыпэндыя выдаецца толькі тым, хто ўжо пражывае ў Празе. Разумееце?

— Так... А ўсё ж дазвольце вас запытаць, пане старшыня, — прамовіў юнак Тугоўскі з перакасіўшымся ад злосьці тварам, з заблішчэўшымі вачыма: — Чаму вы прынялі на маё мейсца некалькі эмігрантаў з Баўгарыі, такога Шабунеўскага, напрыклад... Ці ведама вам, што яны беларусы? Й ці ведама вам, што яны ня сяньня, дык заўтра перайдуць у расейскі камітэт?..

Старшыня паморшчыўся і зноў палез на пасьцель.

— Ну ведаеце, грамадзянін Тугоўскі, гэта ўсё складаныя пытаньні... Як бы вы зрабілі, калі б да вас прыехалі людзі з Баўгарыі і заявілі вам, што яны беларусы. Такі Шабунеўскі — запраўдны беларус.

Старшыня гаварыў такім тонам, што далейшыя спрэчкі былі б бяссэнсавымі.

Тугоўскі падняўся з крэсла.

— Так як жа, пане старшыня, магу я ўсё ж спадзявацца калі-небудзь на стыпэндыю?

— Так... абавязкова, грамадзянін Тугоўскі, абавязкова. Праз месяц будзеце мець стыпэндыю... Ну, самае большае — праз два...

— Можа быць, праз тры, — усьміхнуўся Тугоўскі. — Можа быць тагды, калі якраз спыняцца заняткі ў універсытэце?

6

— Ну што вы, што вы, — прамовіў старшыня і пачаў енчыць, хапаючыся за сьпіну. Тугоўскі пасьпяшыў выйсьці...

— Так, да пабачэньня, пане старшыня, — прамовіў ён, паціскаючы яго пульхлую руку. — Выбачайце за турботы...

— Калі ласка, калі ласка, — ветліва ківаў галавой старшыня. Тугоўскі ўжо ў дзьвярах разьвітаўся з яго жонкай-чэшкай і пасьпяшыў хутчэй выскачыць на вуліцу... Зноў захлюпалі дзюравыя боты па мокраму асфальту. "Так вось як вырашылася справа з стыпэндыяй. Два месяцы! Гэта знача, што праз два месяцы ў яго ня будзе ботаў, гэта знача: два месяцы ён будзе жыць напалову галодны падачкамі сяброў... Два месяцы... Гэта знача, што яго сябры пройдуць курс універсытэта, тады як яму прыдзецца даганяць іх... Два месяцы... Гэта знача, што ён будзе жыць у альтане ў садзе, дзе жывуць усе брадзягі, студэнты бяз стыпэндыі. Гэта знача, што спаць ён будзе каля студэнцкага інтэрнату — і чакаць, што прыдзе садоўнік з паліцыяй й прагоне іх з кватэры, раськінуўшы ўсе рэчы... Так жыць, гэта знача, што ён будзе чакаць, што кожную хвіліну могуць выкінуць на вуліцу... І так два месяцы... Цэлых два месяцы!.. Якая трагэдыя".

Ён ішоў, спыняючы пакрыху свае крокі, нягледзячы на дождж. Ён ня чуў, як мокрыя каплі цяклі з яго старога капялюша за каўнер. Ён ня чуў, бо цягучыя, мокрыя думкі паўзьлі горш за дождж у яго мазгу і мучылі яго і спынялі яго на вуліцы. Аказваецца, правядловая яго тэорыя! Знача, запраўды нейкі закон праклятьця вісіць над ім, як Дамоклаў меч, і яго спатыкаюць у жыцьці толькі няўдачы! Ён ня ведае, што такое шчасьце; гэта

7

слова для яго пусты гук...

Яму пачало здавацца, што ён толькі адзін такі і ёсць на ўсей зямной кулі, што ў кожнага чалавека ёсьць сваё маленькае ледзь прыкметнае, — хай мікраскапічнае чалавечае шчасьце, — але ёсьць... Дзеля гэтага чалавек жыве і кахае жыцьцё... А ў яго, Тугоўскага, няма нічога... Так, нічога! Ні сваей цёплай кануры, ні свайго шчасьця...

Ён з зайздрасьцю ўглядаўся ў адзінокія людскія фігуры на вуліцы. Вось стаіць у дзьвярох свайго магазыну ў белым фартуху чырвоны мясьнік... Эх, як яго раздула!.. Ён глядзіць на прахадзячых з усьмешкай з вышыні свайго задаваленьня... Зразумела, ён шчасьлівы. Вось едзе на сваей велізарнай калымазе з вугальлем чарнарабочы і сасе даўгую, як у турка, люльку з чубаком... Яму прыемна. Ёсьць трубка. Ёсьць грошы. Ёсьць шчасьце... Ён глядзіць на Тугоўскага прышчураным, насьмешлівым паглядам!.. Вось паўнагрудая чырвоная сялянка памагае вязьці на гару свайму сабацы. Сабака запрэжаны, як конь, у нявялікі вазок з малаком. Вось яна спынілася каля магазыну, падаслала сабацы падсьцілку і сама панясла канку ўсярэдзіну. Малады прыказчык выйшаў разам з ёй і ўшчыпнуў яе за талію... Яна сьмяецца... Яна — шчасьлівая. Тугоўскі ідзе й дзівуецца прыгожасьцей яе формаў. Яна шчасьлівая.

Як паглядзіш, у кожнага ёсьць сваё маленькае чалавечае шчасьце... І ў яго? Быццам ён нейкі адкінуты ад усіх, нейкі ўрод у сям'і людской. Так ён адчуваў сябе заўсёды — так ён стварыў сваю тэорыю, так ён адчуваў сябе зараз падуладным сваей тэорыі... А калі гэта так?!. Калі яго тэорыя аб тым, што жыцьцё ўсякага чалавека ідзе па пэўных законах, а не выпадкова, што ёсьць для

8

адных людзей шляхі шчасьця, калі ім усё ўдаецца, калі яны высовываюцца наперад і робяцца "знамянітымі"; — і наадварот, што ёсьць шлях няшчасьця, калі людзям іншым не ўдаецца, калі яны пры ўсіх сваіх здольнасьцях не высоўваюцца наперад і гінуць невядомымі — дык нашто жыць?.. Так! — паўтарыў Тугоўскі. — Нашто жыць?!. Папрабуйце жыць з больлю ў сэрцы, з раненай сьвядомасьцю, з разбітымі крыламі... Папрабуйце разбівацца штодня аб жыцьцёвыя абставіны, як хвалі разбіваюцца аб скалы... Жыць! — хацеў ён сказаць усім гэтым людзям, якія нясьліся міма яго і насьмешліва паглядалі на яго жыцьцё. — Каб перанасіць вашыя насьмешкі — жыць... Вы кажаце: "Жыць"... — і зараз пускаеце ў ход свае філязофіі, ад якіх пахне сьмерцю і трупамі. Вы кажаце: "Цярпіце! Цярпеньнем усё ачышчаецца!.. Вы сьмяецеся над тымі, якія канчаюць жыцьцё, і завеце іх дурнямі. Вялікі філёзаф Ніцшэ сказаў: "Вы кажаце, што жыцьцё — бяссэнсіца? — Правядлова!.. Так паспрабуйце скончыць гэту "бяссэнсіцу"! Знача, толькі трусасьць чалавека перашкаджае яму пакінуць жыцьцё... Інакш ён мог бы скончыць гэту бяссэнсіцу. Толькі трусасьць!

Так ня трэба быць трусам, трэба скончыць жыцьцё... Так, памёрць... Ня думаць больш, ня чуць, ня бачыць... Стаць каменем".

Цяжкая думка аб самагубстве навалілася на ўсю яго істоту чорнай хмарай і папаўзла далей у мозг. Ён ішоў, патупіўшы галаву, ішоў памалу, ня ведаючы сам, якімі вуліцамі, — ішоў, як прыбіты куляй, думаючы аб сваей ране.

**(Працяг будзе).**

## *ВЫДАННІ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"*

Станіслаў ЦЯРОХІН

**СЛАВУТЫЯ АДВАГАЙ НА ВАЙНЕ**



"Нашым прашчурам, як ніводнаму, пэўна, народу, часта даводзілася мячом і тарчай бараніць родную зямлю ад сквапных на чужое, ненажэрных хціўцаў. Бараніць свой самаісты трыб жыцця, свае звычаі і традыцыі, сваё права на існаванне, права людзьмі звацца і быць роўнымі сярод роўных", — піша С. Цярохін у кніжцы "Славутыя адвагай на вайне", якая выйшла ў "Бібліятэчцы "Голасу Радзімы". Мы высока цэнім гэтага аўтара за тое, што ён умее адшукаць цікавы, нікому да гэтага невядомы матэрыял і данесці яго да чытача, пісаць займальна і пераканаўча. С. Цярохін не раз выступаў на старонках газеты, выдаваў у нас і брашуры. Урыўкі са "Славутых адвагай на вайне" таксама друкаваліся ў "Голасе Радзімы" і выклікалі цікавасць у чытачоў.

Многа слаўных бітваў, дзе вызначыліся і праславіліся як бясстрашныя воіны нашы продкі, адбылося на шматпакутнай беларускай зямлі. А што мы ведаем пра гэтыя бітвы? Па ўсім белым свеце расцярушана наша гісторыя, і вялікую справу робіць той, хто спрабуе сабраць яе і данесці да свайго сучасніка. Сярод найвялікшых бітваў, што адбываліся калі-небудзь у свеце, была Грунвальдская 1410 года. Пасля яе амаль 500 гадоў не ступаў на беларускую зямлю тэўтонскі бот. Але мала хто і да гэтага часу ведае, што такое сталася магчымым "дзякуючы баявой садружнасці славянскіх і прыбалтыйскіх народаў, у тым ліку і ў першую чаргу беларусаў. Асноўнай сілай у разгроме крыжакоў была беларуска-літоўская армія, пераважную большасць якой складалі беларускія харугвы... Менавіта аршанцы, смаленцы і мсціслаўцы атрымалі найвышэйшую баявую атэстацыю ўсіх гісторыкаў..."

Сапраўды нямала было, ды і цяпер хапае чорных сіл, якія рабуюць духоўныя набыткі беларусаў, прыпісваюць сабе нашы перамогі і адкрыцці, адбіраюць мову, знішчаюць нацыянальную адметнасць. А што ж сам народ? Пакутуе ён ад такога стану рэчаў, імкнецца да свайго духоўнага адраджэння ці праяўляе абыякавасць? Здаецца, надышлі часы, калі вельмі многае залежыць ад актыўнасці і самасвядомасці беларусаў. А гэтых якасцей ім відавочна бракуе. Вось толькі адзін невялікі прыклад.

Кніжку С. Цярохіна "Славутыя адвагай на вайне" рэдакцыя мае магчымасць не толькі выслаць зарубежным чытачам, але больш за тысячу экземпляраў прадаць у беларускіх кнігарнях. Нечакана мы сутыкнуліся з праблемай: "Саюздрук" не хоча займацца яе распаўсюджаннем, спасылаючыся на тое, што кніжка на беларускай мове і таму яе не будуць чытаць. Дзякуй Богу, што, здаецца, дапамагчы нам зможа Таварыства беларускай мовы.

**Дз. БАБАК.**

## *ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# СЯБРЫ ПАЗНАЮЦЦА Ў БЯДЗЕ

Сёлета гасцямі настаяцеля Свята-Уваскрасенскага рускага праваслаўнага храма ў Чыкага (Маскоўскі Патрыярхат) протаіерэя Уладзіміра Кандраценкі былі: пастаянны прадстаўнік БССР пры ААН Генадзь Бураўкін, першы сакратар прадстаўніцтва Уладзімір Сакалоўскі, другі сакратар Уладзімір Герасімовіч і іншыя асобы.

Высокія госці прыязджалі ў Чыкага, каб сустрэцца з людзьмі, якія прынялі ўдзел у ахвяраванні грашовых сродкаў на пакупку медыкаментаў для беларускіх дзяцей, пацярпеўшых у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Як вядома, па закліку настаяцеля Уваскрасенскага храма протаіерэя Уладзіміра было сабрана каля шаснаццаці тысяч долараў і пры дапамозе пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ААН былі куплены аднаразовыя шпрыцы і полівітаміны, затым самалётам Аэрафлоту дастаўлены ў Мінск і размеркаваны па дзіцячых бальніцах Беларусі.

Генадзь Бураўкін і ўсе прыбыўшыя з ім прысутнічалі ў храме на літургіі. Пасля заканчэння богаслужэння ў зале царкоўнай сталовай адбыўся прыём. Казначэй храма прадставіла прысутным гасцей. Протаіерэй Уладзімір Кандраценка ў прывітальным слове падзякаваў Генадзю Бураўкіну і яго памочнікам за тое, што яны, нягледзячы на занятасць, змаглі вылучыць час, каб прыехаць і сустрэцца з людзьмі, якія адгукнуліся на бяду дзяцей Беларусі і аказалі дапамогу. Ён таксама сказаў, што без іх садзеяння цяжка было б справіцца з такой клапатлівай работай па закупцы і адпраўцы вялікай колькасці медыкаментаў.

Потым да прысутных звярнуўся Генадзь Бураўкін. Ён расказаў аб трагічных выніках аварыі на Чарнобыльскай АЭС для Беларусі і аб тым, якія вялікія сродкі патрачаны і трацяцца для барацьбы з гэтымі вынікамі. Ён адзначыў: "Сябры пазнаюцца ў бядзе. У далёкім ад Беларусі горадзе ЗША Чыкага знайшліся сябры, якія блізка да сэрца ўспрынялі бяду беларускіх дзяцей, аказалі і аказваюць ім дапамогу. Мы прыехалі сюды, каб сустрэцца, убачыць твары гэтых сардэчных, добрых людзей і сказаць ім вялікае дзякуй ад усяго народа Беларусі".

На ўрачыстасці былі людзі і з іншых праваслаўных прыходаў Чыкага. Удзельнікі сустрэчы задалі шмат пытанняў, на якія адказваў Бураўкін.

Генадзь Бураўкін — вядомы беларускі паэт. Некалькі зборнікаў яго вершаў перакладзена на англійскую мову. Джун Мека па-англійску прачытала адзін з яго вершаў. Усе прысутныя падзякавалі Генадзю Бураўкіну і выказалі сваё задавальненне сустрэчай.

**Джун МЕКА.**

Чыкага.

## *СЛАВЯНСКІЯ АСПЕКТЫ ВІЛЕНСКАЙ КАТАСТРОФЫ*

# IV. НЕПАЗБЕЖНЫ ФІНАЛ, ці МАГЧЫМЫЯ ВАРЫЯНТЫ ВЫРАШЭННЯ ПЫТАННЯ

Створаны талентам і шматвяковай працай, выпешчаны клопатам, любоўю і воляю дзесяткаў пакаленняў нашых продкаў, горад Вільня займаў у гісторыі і культуры славянскага свету адно з выдатных месцаў. Уваходзячы ў плеяду такіх славянскіх архітэктурных і культурных скарбніц, як Прага, Варшава, Кракаў, Пецярбург, Масква і Кіеў (але ніколі ў пераліку Рыга, Талін, Вільнюс!), яна на працягу многіх стагоддзяў была расчыненымі дзвярыма ўсходняга славянства ў еўрапейскую цывілізацыю. Дастаткова ўпамянуць кнігі Францыска Скарыны, прызначаныя для задавальнення духоўных запатрабаванняў усходніх славян, і старэйшы славянскі універсітэт (першы на цяперашняй тэрыторыі СССР, Віленскі), пераважную большасць студэнтаў і выкладчыкаў якога складалі выхадцы з беларускіх зямель (гл. Л. Дробаў, "Беларускі жывапіс у 16—19 ст.").

Значыць, рашэнне, прынятае 50 гадоў назад у нетрах гітлераўскай і сталінскай адміністрацыі, прывяло да адной з самых страшных культурна-этнічных і палітычных катастроф не толькі ў гісторыі беларускага народа і суседніх — польскага, рускага і ўкраінскага, але і для славянскага свету. Па свайму маштабу і выніках у трагічным лёсе беларусаў перадачу Вільні ў 1940 годзе Літве можна параўнаць з чарнобыльскай катастрофай. І радніць гэтыя дзве падзеі шматгадовая сцяна маўчання.

Ядзерны грыб Чарнобыля быў схаваны цэнтральнымі міністэрствамі амаль на 5 гадоў у "саркафаг сакрэтнасці". Гэта дазволіла ім схавацца ад адказнасці і расплаты і "знізіць" нанесены імі эканамічны ўрон, пакінуўшы ў брудных раёнах сотні тысяч занятых у вытворчасці людзей, а таксама дзяцей і жанчын.

Больш за 50 гадоў працягваецца маўчанне і хлусня адносна сталінска-гітлераўскага падзелу зямель, заселеных пераважна беларусамі. Дасягнута "супакаенне" народа з дапамогай тэрору — выстраламі каля Курапацкіх траншэй і фальсіфікацыяй гісторыі.

Вялікімі намаганнямі прабіта сцяна чарнобыльскай сакрэтнасці і хлусні. Але ўсё яшчэ моцная і непарушная сцяна, што ўзводзілася дзесяцігоддзямі для ўтойвання аднаго з самых страшных злачынстваў сталінскага рэжыму супраць беларускага і польскага народаў.

Аднак 50 гадоў — гэта нязначны тэрмін у шматвяковай гісторыі Віленшчыны, таму пытанне аб аднаўленні справядлівасці непазбежна паўстане перад беларускім, польскім і рускім народамі.

Палітыкам і дыпламатам у Маскве настаў час зрабіць вывады з 50-гадовай гісторыі дыпламатычных, эканамічных і іншых адносін паміж СССР і краінамі Усходняй Еўропы. Праводзімая з дапамогай ваеннага бізуна і перніка ўступак (эканамічных і... тэрытарыяльных. Як заўсёды за кошт... Беларусі), палітыка падтрымкі "блока брацкіх дзяржаў" пацярпела скрышальны крах. Аднак за гэта "брацтва" народы СССР заплацілі не толькі ўсеагульным упадкам і галечай, але і дадатковым спусташэннем прыродных багаццяў.

Ясна, чым заканчваецца такая палітыка "ўмацавання дружбы" паміж народамі. Гісторыя спісвае ўсе рухункі, пакідаючы ў страце (як гавораць, у дурнях) грамадзян дзяржавы, якая ахвяравала інтарэсамі свайго народа, каб дагадзіць блізарукай палітычнай канцэпцыі. Падобны фінал непазбежны і ў азартнай гульні Масквы з Прыбалтыкай. Адзіная казырная карта, што разыгрываецца з 20-х гадоў, — гэта перадача балтыйскім рэспублікам зямель, заселеных славянамі, у абмен на "дружбу" і ў якасці платы за страту імі незалежнасці. Сутнасць абмену, што адбываўся ў 40-м годзе, была імгненна ў Літве падмечана народам: "Вільня жмудска, Літва руска". Аднак да чаго прывяла злачынная палітыка дзяльбы зямель Заходняй Беларусі? Дзеля чаго пачаты адкат славян з асвоеных імі тэрыторый, з пабудаваных імі гарадоў?

Чым адкажуць на шчодрасць Масквы прыбалтыйскія суседзі, красамоўна сведчаць нядаўнія прыклады Польшчы, Чэха-Славакіі і г. д.

Захаванне цэнтрам недальнабачнай палітыкі можа яшчэ падоўжыць агонію і ўтрымаць Прыбалтыку ад адрыву на гады і нават на дзесяцігоддзі. Цэнтр згодзіцца заплаціць за "выратаваную" дружбу і па старых рахунках, і па новых, таму што знойдзе з каго садраць яшчэ тры шкуры. І зноў гэта будзе беларускі народ!

Пасля выкрыцця культу асобы непазбежная рэабілітацыя нявінных ахвяр: мільёнаў людзей і цэлых народаў. Мёртвым вяртаецца гонар і памяць, жывым — справядлівасць, свабода і родная зямля.

Беларускі народ, пераможца, працаўнік і ахвяра жорсткіх рэжымаў, падвергнуты этнічнаму і фізічнаму генацыду, — яшчэ жывы! І можа, і павінен заявіць аб поўным аднаўленні сваіх правоў.

На нашу думку, толькі справядлівае і сумленнае вырашэнне дазволіць адкрыць трыадзінае выйсце з тупіка для СССР, Беларусі і Прыбалтыкі:

1) пераход да палітыкі, якая адпавядае сапраўдным інтарэсам як краіны, так і Расіі (без бізуна, славянскіх "пернікаў" і непазбежнай расплаты);

2) прадастаўленне свабоды і незалежнасці Прыбалтыцы пры мудрых і чэсных адносінах з яе боку да праблемы вяртання сталінска-гітлераўскіх "дароў";

3) правядзенне палітыка-прававой ацэнкі пакта Рыбентропа-Молатава і вынікаючых з гэтага змяненняў межаў СССР і Літвы;

4) стварэнне экспертных груп з прадстаўнікоў законна выбраных парламентаў у адпаведнасці з міжнароднымі нормамі для ацэнкі палітыкі, вызначэння этапаў і тэрмінаў пераходнага перыяду (у сувязі са змяненнем статуса тэрыторый) і вызначэння памераў і крыніц неабходнага фінансавання і кампенсацый;

5) прыцягненне незалежнай камісіі пад эгідай ААН для каардынацыі дзеянняў і ажыццяўлення кантролю;

6) правядзенне рэферэндуму для вызначэння тэрмінаў і шляхоў трансфармацыі Віленшчыны ў новы дзяржаўны статус;

7) наданне Вільні статуса вольнага горада, ператварыўшы яго ў Еўрапейскі цэнтр супрацоўніцтва славянскіх і балцкіх народаў;

8) наданне Віленскаму краю асобага статуса дзяржаўнай аўтаноміі, гарантуючы насельніцтву краю поўную свабоду выбару мовы, нацыянальнай арыентацыі і рэлігіі.

Толькі так можна спыніць гвалтоўную дэславянізацыю Вільні і Віленшчыны, праводзімую больш як 50 гадоў у якасці галоўнай дзяржаўнай задачы ўсіх урадаў Літвы.

У паслярэвалюцыйны перыяд, пачынаючы з Брэсцкага міру, усе абмеркаванні і рашэнні аб межах паміж СССР, Германіяй, Польшчай і Літвой праходзілі не толькі без уліку законных правоў беларусаў, але і без удзелу на перагаворах іх прадстаўнікоў. Тэрытарыяльныя прэтэнзіі Польшчы і Літвы на беларускія землі не атрымалі адпору. Самі гэтыя землі былі і з'яўляюцца да гэтага часу прадметам торгу (у імя палітычных і дыпламатычных інтарэсаў бакоў) паміж урадамі Масквы, Варшавы, Каўнаса, а цяпер і Вільнюса. Традыцыйная палітыка тайнай змовы паміж Польшчай і Расіяй працягваецца. І па сённяшні дзень, як і раней, Масква дэманструе скажонае ўяўленне аб гісторыі Беларусі і Літвы і поўнае няведанне этнічных праблем гэтага краю. Адкуль кіраўніцтву Расіі чэрпаць праўдзівую інфармацыю, калі ў кожнай з суседніх з Беларуссю краін была адпрацавана свая зручная (польская, руская, літоўская) канцэпцыя гісторыі беларускага народа. Аднак у аснове кожнай з гэтых канцэпцый бачыцца імкненне абгрунтаваць правы суседзяў на гэтыя землі, на гэты народ, на яго мінулае і будучыню.

У сувязі з вышэйсказаным любая спроба ліквідаваць памылкі, хлусню і дэзінфармацыю аб нашай гісторыі ўяўляецца вельмі актуальнай. Перабудова і галоснасць дазволілі нашаму народу пачаць пошукі адказаў на сакраментальныя пытанні аб мінулым, сучаснасці і будучыні. Хто мы і куды ідзём?

Узнаўленне гістарычнай праўды, у прыватнасці, дапаможа нам і нашым братам-палякам Віленшчыны ўсвядоміць глыбокую кроўную роднасць як славян і як прадстаўнікоў дзвюх галін аднаго народа, штучна падзеленага рэлігійнымі і культурна-палітычнымі бар'ерамі.

**Віктар СІЎЧЫК.**

Заканчэнне. Пачатак у №№ 20 — 22.

## ІМЁНЫ, ВЯДОМЫЯ ЎСІМ



# НАТАЛЕННЕ АКЦЁРСКАЙ СМАГІ

Мы доўга выступалі на Міншчыне і Бабруйшчыне, а заключныя канцэрты адбыліся ў Мінску на сцэне Акругования дома афіцэраў. Да іх быў далучаны Мікалай Ворвулеў і балетная група з опернага тэатра.

Надышоў вечар развітання. Алейнікаў завяршаў праграму. Абвешчаны канец, а выклікам няма супыну. Усхваляваны артыст выйшаў на авансцэну і нечакана для ўсіх сказаў па-беларуску:

— Даражэнькія мае, мы спяшаемся на цягнік. Засталося мала часу, але хопіць для таго, каб прачытаць вам урывак з паэмы "Тарас на Парнасе"...

Чытаў віртуозна і закончыў са слязамі ў вачах. У зале нібы знямелі. Раптам нейкая дзяўчына ўзнялася з месца і спыталася:

— Скажыце, калі ласка, шаноўны Пётр Марцінавіч, якім чынам вы так дасканала вывучылі нашу занядбаную мову, што мы не заўважылі хібаў?

Алейнікаў адказаў:

— Любая дзяўчынка! Няхай бы вы лепей спыталі, як я вывучыў рускую мову, бо ў сваёй рэспубліцы я так і не здолеў прабіцца...

...Напэўна, хто-небудзь іншы, апынуўшыся ў яго становішчы, нагадаў бы кінарэжысёрам пра сябе. Алейнікаў цярпліва чакаў запрашэння. Але з'явілася яно праз многа гадоў. Знайшоўся пастаноўшчык, які прапанаваў яму ролю, і ў выніку адбылося вялікае творчае адкрыццё. Пра яго крышку пазней.

Студэнты Маскоўскага інстытута кінематаграфіі спыталі ў народнай артысткі СССР Тамары Макаравай:

— Што прымушала Пятра Алейнікава так зацята абмінаць кінастудыі?.. Гонар?

Яна адказала:

— Магчыма. Але найболей беларуская сціпласць. Яна была ў яго такая ж трывалая, як і талент.

Ён быў абыякавы да славы і не заводзіў архіваў, без якіх не ўяўляюць свайго жыцця не толькі многія артысты, але і вучоныя, пісьменнікі і мастакі. У яго сям'і захаваліся ўсяго два ці тры фотаздымкі. Жонка Алейнікава Валянціна Іванаўна сказала:

— Вы расчараваны? Але нічога не зробіш. Вы ж яго друг і ведаеце: такі ён быў... Ён лічыў нясціплым рэкламаваць сябе, а тым больш нечага ў некага прасіць. Ен чакаў.

А час ішоў. Навалілася хвароба — мокры плеўрыт. Ён ігнараваў яе, запусціў, паставіў пад пагрозу жыццё. Дактары зрабілі аперацыю, і ён астаўся жыць з адным лёгкім. Вярнуўся з бальніцы нядужы, з сівізною на скронях. Толькі вочы свяціліся, як заўсёды, гарэзным агеньчыкам.

Ён звыкся з лёсам і стаў пасіўны. Жыў цяпер толькі адной надзеяй, што яго дзеці — сын Тарас і дачка Арына — пойдуць яго шляхам і дасягнуць таго, чаго не паспеў ён сам. Нярэдка выказваў жаданне сыграць чалавека немаладога, абцяжаранага стратамі, няўдачамі і перажываннямі, але не ачарсцвелага, не растраціўшага душэўных набыткаў і любові да людзей.

Летам Алейнікаў прыязджаў у родную вёску на Шклоўшчыну. Хадзіў са сваякамі касіць сена, вяршыць стагі, малаціць збажыну. У вольныя часіны яго абступалі аднавяскоўцы, і ён расказваў, як здымалі фільмы, чытаў "Тараса на Парнасе". Шмат разоў прыязджаў ён у родныя мясціны з канцэртнай брыгадай. Выступаў у полі, на лузе, на абодвух берагах Дняпра. Пасля лавілі рыбу, збіралі грыбы і ягады, наладзілі лясное застолле.



Пётр АЛЕЙНІКАЎ (другі злева) з роднымі.

Аднойчы на раздіме ён добра адпачыў і акрыяў. Гэта было якраз тады, калі ў горадзе яго чакала праца, пра якую ён марыў шмат гадоў. Рэжысёр з "Туркменфільма" Булат Мансураў запрасіў яго на ролю. Больш таго, ён пажадаў, каб разам з Алейнікавым зняліся яго дзеці — Арына і Тарас.

Сцэнарый "Спаталенне смагі" напісаў Юрый Трыфанаў паводле рамана разам з Булатам Мансуравым. У ім расказвалася пра будаўніцтва Каракумскага канала. Сцэнарый, як і раман, густа населены людзьмі. Роля экскаватаршчыка Маруціна, прапанаваная Алейнікаву, была невялікай. Не вельмі пашырылася яна і пры здымках. Але ў выніку бліскучага яе ўвасаблення стала адной з самых адметных і важных не толькі ў фільме, а і ва ўсім нашым мастацкім кінематографе. Гэта роля стала трыумфам і лебядзінай песняй яе выканаўцы. Як у свой час Малібогу, яе ўспрынялі як сенсацыю. Майстры кіно толькі цяпер сапраўднаму зразумелі, якога вялікага акцёра страцілі задоўга да яго смерці. Запозненa ўзрушаныя, пасмяротна ўзнагародзілі яны яго самай высокай прэміяй на Усесаюзным кінафестывалі ў Ленінградзе.

Маладыя кінематаграфісты, заінтрыгаваныя аўтарытэтнай ацэнкай, праявілі цікавасць да ролі Маруціна, і яна выклікала ў іх выключнае захапленне. І зноў (каторы раз!) пачаліся гаворкі, што роля атрымалася такая ўдалая таму, што акцёр іграе самога сябе... Якое крыўднае неразуменне!!!

...Здымалі "Спаталенне смагі" на трасе Каракумскага канала падчас яго будаўніцтва. Жылі ў вагончыках на станцыі Захмет. Працавалі па 14-16 гадзін у суткі. Падганяў Алейнікаў. Хацеў паспець зняцца, бо адчуваў сябе вельмі кепска і не меў ніякіх ілюзій наконт свайго здароўя.

Стаяла нясцерпная спёка. Часта заставаліся без вады, але, дзівячыся мужнасці і самаадданасці хворага, людзі не наракалі. Аднойчы Алейнікаў сказаў маладзейшым сябрам: "Кожная новая роля, у якой мне даводзілася здымацца, гэта цэлы вялікі свет найцікавейшых адкрыццяў, дзе ўжо ў знаёмым знаходзіш новае, і яно ўзбагачае ўражаннямі і адчуваннямі".

"Спаталенне смагі" пачынаецца такім паведамленнем:

"У гэтай карціне Пятро Алейнікаў сыграў сваю апошнюю ролю".

Болем сціскаецца сэрца ў таго, хто бачыў акцёра на экране і тым болей, калі ведаў яго пры жыцці.

Разгортваюцца падзеі фільма. Рабочы-запраўшчык Маруцін трапіў у каракумскія пяскі не адзін, а з дачкой Марынай — прастадушнай і чулай жанчынай, якая выйшла тут замуж за экскаватаршчыка Нагаева. Гэта чалавек змрочны і сквапны. Марыне дзіўна, што ён нічога не чытае, не ходзіць у кіно. Але маладая жонка з мужам тактоўная і цярплівая. Яна яшчэ не ведае, што ён робіць махінацыі, каб ухапіць даўжэйшы рубель. У гэтым яму памагае цесць Маруцін — чалавек і без таго з вялікімі хібамі — алкаголік і распуснік.

Пра колішняе жыццё дзеючых у фільме асоб нічога не гаворыцца, але яно ўяўляецца са слоў аднаго з кіраўнікоў будаўніцтва: "Зборышча зладзюг і хапугаў". Спустошанаму і псіхалагічна надламанаму Маруціну не чужая гэта грамада. Але вылучаецца ён нерастрачанай шчырасцю да людзей. З усяго відаць, што ў маладыя гады ён быў хлопцам таварыскім. Цяпер ён і дня пражыць не можа без спіртнога. Пятро Алейнікаў іграе яго пераканаўча. Ён і вонкава непрыглядны, маршчыністы, лысы, з худою, доўгаю шыяй. Голас вісклівы, рыплівы. Дык чаму ж замест непрыязнасці выклікае ён усеагульную спагаду? Якраз таму, што акцёр надае вобразу ўнутранае змаганне з сабою. Высвечвае глыбінны працэс душэўнай барацьбы.

Марына шкадуе бацьку, клапоціцца пра яго. Сочыць, каб быў сыты і дагледжаны. У іхнім вагончыку ўтульна і чыста. На падаконні вазоны з кветкамі, на століку зіхаціць посуд. Ды хіба ўгледзіш за старым?! Ён адмахнецца ад яе і ўвесь вечар не скідае бруднага адзення. Сноўдаецца па пасёлку, як жывая мішэнь для кпінаў і здзекаў. Асабліва смяюцца з яго падлеткі, дражняць, абсыпаюць пяском. Ён уцякае, зашываецца куды-небудзь у глухое месца, думае пра зяця і пра тое, як утаіць свае думкі ад дачкі. Разумее, што зяць куды горшы за яго самога і дачка не будзе мець шчасця. Пагаварыць з ёю на гэтую тэму ён не адважваецца, бачачы яе адданасць мужу. І Маруцін маўчыць, пакуль што не выкрывае зяця.

Здарылася няшчасце. На канале прарвала дамбу. Усе ўзрушаны. Адзін Нагаеў спакойны. З халодным разлікам вымагае ён вышэйшых расцэнак за ўдзел у ліквідацыі аварыі. Ён упэўнены, што цесць падтрымае яго, як і раней. Але Маруцін, рашуча асудзіўшы хапугу, рызыкуючы жыццём, кінуўся да дамбы. "Тут Алейнікаў стварае цуд, — піша Мікалай Кладо ў кнізе пра яго, — пераконвае гледача ў абуджэнні свядомасці ў чалавеку, здавалася, ужо назаўсёды згубленым. Пятро Алейнікаў нібы сцвярджае сваёй апошняй працай тое, у чым ён пераконваў з экрана ўсё сваё яркае кінематаграфічнае жыццё: нікому не забаронены шляхі стаць чалавекам. І ці стане ён ім — залежыць найперш ад яго самога. Гэтая гуманнасць пропаведзі акцёра, раскрытая ў канкрэтных характарах сучаснікаў, забяспечыла ім доўгае жыццё".

Кінаактрыса Арына Алейнікава многае пераняла ад таленту бацькі. Сыграўшы шэраг роляў у розных фільмах, яна набыла папулярнасць. У "Спаталенні смагі" здымалася яшчэ студэнткай інстытута кінематаграфіі. Яна расказвала:

— Я ніколі да гэтага не іграла разам з бацькам. Нават дома, жартуючы. Праўда, ён вельмі цікавіўся маёй вучобаю ў інстытуце, цяжка перажываў мае зрывы і няўдачы і заўжды патрабаваў ад мяне праўды і шчырасці. І вось я сустрэлася з ім на здымачнай пляцоўцы... Ён даўно хацеў сыграць старога мудрага чалавека. Паказваў нам, як ён ходзіць, як гаворыць — бацька быў надзіва назіральны... Добры партнёр, з якім на пляцоўцы адразу завязваецца кантакт, які ўмее адным позіркам, жэстам, ледзь улоўным рухам памагчы знайсці настрой, каб сыграць эпізод дакладна, так, як трэба. Дапамог мне бацька і на здымках "Спаталення смагі". У мяне зусім не было адчування, што гэта мой бацька. Перада мною быў акцёр. І хоць у фільме мы ігралі бацьку і дачку, але гэта былі ўжо не бацька і дачка Алейнікавы, а бацька і дачка Маруціны...

...Гарачыня ў пясчанай пустыні, а ў яго — адно ды яшчэ хворае лёгкае. Але трымаўся мужна: жартаваў, смяяўся, быў душою грамады. І ўсё ж сарваўся аднойчы, даведаўшыся, што эпізод, пакутліва зняты напярэдадні, атрымаўся на плёнцы невыразным. Алейнікаў катэгарычна заявіў, што не мае сілы для пераздымкі...

Аднойчы кашлянуў згусткамі крыві. Не прызнаўся ў гэтым, толькі папрасіў, каб здымалі хутчэй. У той дзень асабліва нясцерпна мучыла смага. Ён не стрымаўся і выпіў поўную кварту ледзяной вады. Стала вельмі кепска, і ён злёг. Перад адлётам у Маскву ўсю ноч не заплюшчваў вачэй, расказваў пра беспрытульніка з Беларусі, што стаў кінаакцёрам, пра людзей, якія вывелі яго на правільную дарогу.

У тую бяссонную ноч у яго запыталіся, ці не зменіць назву фільма.

— Булат, — сказаў Пётр Марцінавіч Мансураву, — я цябе вельмі прашу, не мяняй, бо гэты фільм — спаталенне маёй акцёрскай смагі!

Маскоўскія медыкі намагаліся ўратаваць яму жыццё. Дарэмна. 9 чэрвеня 1965 года Пётр Марцінавіч Алейнікаў памёр. Яго пахавалі на Новадзявочых могілках.

Ён амаль што паспеў зняцца. Даробак быў невялікі. Неўзабаве фільм выйшаў на экраны. Канчаўся сеанс. Гледачы не краналіся з месцаў, сядзелі маўклівыя нейкі момант, а потым ціха выходзілі з залы.

Пятра Алейнікава любілі і надзвычай высока цанілі самыя славутыя карыфеі мастацтва. Вось як характарызуе яго ў сваёй кнізе "Азорскія астравы" народны артыст СССР Барыс Чыркоў: "Бясспрэчна выйшаў на першае месца Пятро Алейнікаў. За ўсё сваё жыццё я ведаў, бадай, нямногіх, хто быў так шчодра адораны прыродай для артыстычнай дзейнасці... Гэта сапраўды быў вельмі вялікі артыст. Убачыўшы яго ў карціне Герасімава, я падумаў, што трэба пакідаць сваю працу ў кіно, бо побач з такім незвычайным талентам немагчыма стаць перад аб'ектывам кінаапарата: сваёй нязмушанасцю і натуральнасцю ён заслоніць тваю ігру...

Алейнікаў быў феноменам, дзівам. І гэта не толькі яго, але і наша, яго таварышаў па рабоце, віна, што ён пайшоў з жыцця так рана, не здзейсніўшы ўсяго, на што быў здатны.

Ягонай каласальнай папулярнасці нельга было зайздросціць. Ім любаваліся, як любуюцца прыгажосцю прыроды, як радуюцца шчасцю".

Успамінаючы Пятра Алейнікава, народная артыстка СССР Тамара Макарава пісала пра яго ў часопісе "Искусство кино":

"Развіццё жыцця дазваляе нам думаць, што няма незаменных людзей. Бо жыццё спыніць немагчыма, і на змену адным імёнам прыходзяць новыя. І ўсё ж у кожным пакаленні застаюцца ў памяці сучаснікаў адзінкі.

Не паўтарыўся Эйзенштэйн, таксама, як не паўтарыліся Даўжэнка і Пудоўкін. Наша мастацтва прадаўжае сваё развіццё з іншымі таленавітымі людзьмі, а тых ужо няма.

Я думаю, што мы маем рацыю, калі гаворым тое самае і пра Пятра Алейнікава. Ён быў найвыдатнейшым акцёрам сярод нас. Пры з'яўленні яго на экране мы заўсёды маглі пацвердзіць: так, так было, быў такі чалавек, з такім менавіта характарам. Ён быў дакладны, як само жыццё."

**Аляксей СЛЕСАРЭНКА.**

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 20 — 22.**



У памяшканні Белдзяржфілармоніі прайшлі прадстаўленні амерыканскай групы "Маладыя паслы". Прафесіянальныя шоу, што ўключаюць у сябе сучасныя і традыцыйныя брадвейскія мелодыі, паказваюць карані амерыканскай музыкі праз работы лепшых кампазітараў ЗША.
Поспех групы ва ўсім свеце заснаваны на таленце і энтузіязме артыстаў і на прафесіяналізме яе артыстычнага дырэктара Рэндзі Бута, музычнага прадзюсера Рона Сімпсана і дырэктара трупы Джэніал Крыстэнсен.
НА ЗДЫМКУ: выступленне амерыканскай групы "Маладыя паслы".

# НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў КРАКАВЕ

У Кракаве ў замку каралеўскім на Вавелю адбылася навуковая канферэнцыя "Тканіны мастацкія XVIII—XIX стагоддзяў". На ёй было заслухана 10 дакладаў. Канферэнцыю пачаў доктар Ян Астрогскі, які выступіў з дакладам на тэму: "Часы саскія: апошняя ступень упадку ці пачатак Адраджэння". У ім былі ўзняты праблемы таго часу, перспектывы развіцця мастацтва Рэчы Паспалітай у XVIII стагоддзі. Тры даклады былі прысвечаны Слуцкай персіярні Марыі Ташыцкай (Кракаў), Малгажаты Урублеўскай-Маркевіч (Лодзь), Надзеі Высоцкай (Мінск).

У іх размова ішла аб гісторыі слуцкіх паясоў кантушовых, аб тэхніцы іх выраблення і новых, знойдзеных у архівах дакументах, якія дазволілі ўдакладніць перыядызацыю дзейнасці слуцкай мануфактуры.

Вялікую цікавасць выклікаў даклад А. Кетлінскай і М. Півоцкай аб габеленах М. Агінскага, якія знаходзіліся ў палацы ў Слоніме. Праведзеная праца ў архівах і пошукі аналогій у заходнееўрапейскім мастацтве (гравюрах, скульптуры) прывялі іх да палацава-паркавага ансамбля XVII стагоддзя ў Версалі (пад Парыжам).

Нешта падобнае імкнуўся ў XVIII стагоддзі стварыць Міхал Казімір Агінскі. Для палацавага ансамбля ён заказаў 12 габеленаў, з якіх у музеях Польшчы захавалася толькі 4. І толькі гэтыя помнікі сведчаць аб высокім узроўні палацавай скульптуры Слоніма XVIII стагоддзя.

Аб канклюзіі (пахавальнай харугві) з партрэтам Пятра Сапегі паведамляла Ірма Козіна.

На заканчэнне канферэнцыі ў дыскусіі прымалі ўдзел Ян Астрогскі і Ірэна Хумпль, якія падкрэслілі неабходнасць правядзення канферэнцыі такога тыпу, высокі навуковы ўзровень дакладаў, надзвычайную карыснасць абмену апошнімі навуковымі дасягненнямі вучоных.

Неабходна адзначыць, што канферэнцыя праходзіла на Вавелю ў час экспанавання выставы "Мастацкія тканіны XVIII—XIX стагоддзяў". На ёй былі прадстаўлены слуцкія паясы, шпалеры, габелены, кілімы, якія захоўваюцца ў розных музейных і касцёльных зборах Польшчы. Гэта выстава ў снежні 1990 — студзені 1991 гадоў экспанавалася ў Мінску ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР і, як у Польшчы, выклікала вялікую цікавасць і пільную ўвагу.

**Н. ВЫСОЦКАЯ.**

# ПА ЗАПРАШЭННІ "ПАГОНІ"

З 4 па 11 мая па запрашэнні суполкі "Пагоня" на Беларусі гасцявала дачка славутага беларускага мастака Фердынанда Рушчыца (1870—1936 гг.) спадарыня Барбара Рушчыц. Яна нарадзілася ў 1923 годзе ў Вільні, зараз жыве ў Варшаве. Спадарыня Барбара — археолаг.

Госця з Варшавы наведала Багданава, што на Валожыншчыне, — радзіму бацькі, была ў Заслаўі, Раўбічах, Нясвіжы. На сустрэчы ў Саюзе мастакоў Беларусі яе віталі сябры з творчага саюза.

10 мая была наладжана сустрэча спадарыні Рушчыц з творчай інтэлігенцыяй Мінска. Пры ўсёй нязмушанасці атмасферы сустрэчы, па прадстаўнічасці і характары кароткіх прамоў яна нагадвала навуковую канферэнцыю. Аб ролі Рушчыца ў фарміраванні беларускай мастацкай школы, аб уплыве яго творчасці на мастацтва Польшчы і Еўропы гаварылі навукоўцы Л. Дробаў, М. Яніцкая, В. Шматаў, М. Раманюк, старшыня згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" пісьменнік Я. Лецка. Геральдмайстар Згуртавання беларускай шляхты Л. Акаловіч прадэманстраваў прысутным шляхецкі герб беларускага роду Рошчыцаў (менавіта так называлі сябе продкі славутага мастака), расказаў пра глыбокія карані і магутную крону гэтага роду, якая ахоплівае тэрыторыю ад Ціхага акіяна да Балтыйскага мора.

На сустрэчы прысутнічалі выкладчыкі і студэнты тэатральна-мастацкага інстытута, прадстаўнікі Беларускага фонду культуры і, зразумела, сябры суполкі "Пагоня".

На заканчэнне сустрэчы спадарыня Барбара адказала на шэраг пытанняў.

**В. БОГУШ.**

# «ТУТЭЙШЫЯ» Ў МАСКВЕ

"Тутэйшыя..." Гэта слова пра многае скажа беларускаму чытачу. І не толькі таму, што так называецца вядомая п'еса народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, да нядаўніх пор забароненая. Такую ж назву носіць і літаратурнае аб'яднанне маладых пісьменнікаў, якое атрымала заслужанае прызнанне ў рэспубліцы. Іх творчасць стала прадметам зацікаўленай размовы на пасяджэнні Савета па беларускай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР.

Усведамленне сваёй нацыянальнай годнасці, своеасаблівасці беларускай культуры, уласных мастацкіх задач — вось што было і ёсць галоўнай мэтай маладых беларускіх аўтараў, якія аб'ядналіся ў 1987 годзе. Але ў той час палітыка ўладарна ўплывала на літаратурную дзейнасць. І, адклаўшы ўбок пёры, "тутэйшыя" сталі арганізатарамі мітынгу ў дзень памінання — традыцыйнага беларускага свята "Дзяды". Тады, у 1988 годзе, ён упершыню быў прысвечаны памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

І вось цяпер, разбудзіўшы грамадскасць, яны вярнуліся да таго, да чаго больш за ўсё прыдатныя — да літаратуры. Творчых праблем у маладых пісьменнікаў, у іх дарослых калег па пяру нямала. Пра іх і ішла размова на пасяджэнні савета.

"Тутэйшых" прадстаўлялі Адам Глобус, Максім Клімковіч, Уладзімір Сцяпан, Міраслаў Шайбак — аўтары, якія працуюць у розных літаратурных жанрах. У Маскву яны прывезлі томікі сваіх кніг, якія яшчэ пахнуць свежай фарбай.

— "Тутэйшыя" — не арганізацыя, а пакаленне, — лічыць Міраслаў Шайбак. — І, як любое пакаленне, павінны несці ў жыцці і літаратуры сваю долю адказнасці — хоць бы за тую разбуральную сілу, якая можа быць выклікана цяпер, няздольную ні да творчасці, ні да стварэння, ні да мастацтва.

Адам Глобус прысвяціў сваё выступленне "адноўленым у правах" беларускім паэтам — Алесю Гаруну, Ларысе Геніюш, Наталлі Арсеньевай. "З іх вяртаннем у літаратуру згаслі многія імёны і рэпутацыі, якія былі прадметам незаслужанага пакланення і вывучэння. І ўсё ж я ўдзячны ўсім, хто ў 30—50-я гады проста пісаў па-беларуску, шчыра сказаў Адам, таму што пры гэтым мастак у меру сваіх сіл займаўся захаваннем беларускай культуры."

Аб увасабленні нацыянальнай маралі ў мове разважаў Максім Клімковіч. І перш за ўсё аб тым, што літаратура на беларускай мове не мае свайго чытача. Балючым стала і пытанне пра месца ў грамадстве беларускага пісьменніка.

**Л. ПЕРКІНА.**

# «ПАЛЮБІ СВАЕ КАЙДАНЫ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мы ўвогуле не ведаем, якія мы. Што сёння нас захліснула, што прыйшло з Захаду, якое атрымала праламленне тут? Гэта павінна вывучаць сацыялогія. Але яна ў нас у зародкавым стане. У Саюзе павальна глядзяць стары амерыканскі фільм "Знесеныя ветрам". Здаецца, ну чым ён можа зацікавіць сучаснага гледача? Але там ёсць лёс, ёсць надзея, што чалавек здольны перамагчы зло. Значыць, калі б сацыёлагі аналізавалі сітуацыю, яны б сказалі, што чалавек сёння, як у хлебе, мае патрэбу ў надзеі, што дабро абавязкова пераможа. Хаця б у межах казкі.

Сёння ўзнаўляюць цэрквы, старадаўнія замкі — гэта цудоўна. Але і сама душа чалавечая патрабуе рэстаўрацыі. Крызіс — куды ні глянь. Што рабіць — вешацца, страляцца, забіваць адзін аднаго? Тут павінна дзейнічаць царква, трэба выбраць правільныя пазіцыі і свяшчэннаслужыцелям, і ўсім нам — работнікам мастацтва і культуры. А на справе: пісьменнікі збяруцца — лаянка, "пастыры" перагрызліся. І куды такі духоўны павадыр можа павесці?

Я некалі выступаў і галасаваў за закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Таму што з яе пачынаецца культура нацыі. Але і тут я праціўнік прымусу — трэба мець спакойны цвярозы розум. Уводзіць і расшыраць вывучэнне мовы ў школах, дзіцячых садах асцярожна, пасылаць туды педагогаў вышэйшай кваліфікацыі, плаціць ім большую зарплату. Закальцоўваць сем'і з выхавацелямі, каб бацькі хоць раз на тыдзень бывалі ў дзіцячай групе, удзельнічалі ў занятках. Тут і гаварыць пра радзіму, зямлю, сумленне, любоў. Рыхтаваць дзяўчынак да мацярынства, да ролі гаспадыні дома, а хлопчыкаў — да мужчынскіх абавязкаў. Што цяпер умее дзяўчынка? Курыць, бадзяцца, гультайнічаць; набывае можа быць, нейкую адукацыю — і ўсё. Жахліва, калі дзесяцікласніца лічыць прастытуцыю прэстыжнай прафесіяй. Яна думае: "Ну, закрыю вочы, саграшу, затое буду мець колькі соцень рублёў у дзень". Гэта поўнасцю перакручаная мараль.

Ужо выдадзены ўказ аб абароне маралі. Мера — вымушаная. Але як абараніць мастацтва ад недасведчаных людзей, якія, карыстаючыся ўказам, стануць тыцкаць пальцам: вось "парнуха", а вось — не. Можа пацярпець многае. Перш за ўсё — эротыка. Яна — частка культуры чалавечай. Парнаграфія, вядома, паскудства страшэннае. Магчыма, якім-небудзь старым такія касеты патрэбныя — гэта пытанне медыцынскае, лячэбнае. Але нічога дрэннага нельга сказаць аб эротыцы ў мастацтве. Мужчына павінен цягнуцца да жанчыны, поўнай загадкавасці, чароўнасці, эратычных тайнаў. У нас на сцэне і экране мала ўвасобленай жаноцкасці, бо акцёры выходзяць з нашага ж асяроддзя. Таму трэба неадкладна адраджаць, проста за каўнер выцягваць саму ідэю акцёрскага амплуа. Героі зламаныя, складаныя да поўнай незразумеласці, публікай не ўспрымаюцца. Людзі хочуць, каб Джульета была юнай і прыгожай, каб Клеапатра, у якую без памяці ўлюбіўся Антоній, магла імгненна здзівіць сваёй прыгажосцю ўсю глядзельную залу. Амерыканцы гэта ведаюць і ўмеюць рабіць выдатна. У іх у фільме абавязкова прысутнічае чароўная жанчына і дужы герой - мужчына — Адам і Ева.

Увогуле, у мастацтве патрэбны і рамеснікі, патрэбна накіраваная на добрыя мэты масавая культура, таму што не ўсе здольныя зразумець высокае, складанае, элітарнае мастацтва. У нас баяліся нават слова "эліта". А гэта ж перадавая, лепшая частка грамадства, якая задае рух у духоўнай сферы. Эліта была, ёсць і будзе, як сумленне, культура, мараль. Адсюль патрэбны і салоны — у разуменні мінулага стагоддзя. Але вось у чым галоўнае: усё элітарнае часам становіцца агульнадаступным. Так грамадства само сябе падцягвае вышэй.

Культура абавязкова павінна фінансавацца ўрадам. Яна не будзе выдаваць прадукцыю, як станок, але ў выніку прынясе каласальную выгаду. Людзі стануць па-іншаму мысліць, працаваць. Для тэатра цяпер час цяжкі. Камерцыялізацыя згубная. Узнімаць цэны на білеты — амаральна. Таму я — за тэатры на дзяржаўнай датацыі. Замежжа зайздросціць, што ў нас стабільныя трупы, а мы — з дурной галавы — хочам гэта разбурыць. Спектаклі і фільмы, звязаныя з кааператывамі — гэта хаос поўны. Яны прагараюць, і ўсё гіне, акцёрам няма чым плаціць зарплату. Дзікі непрафесіяналізм.

Выйсце, напэўна, ёсць, толькі трэба думаць. Мазгі павінны быць у цане, як ніколі.

Адбітак роляў у быце? Ёсць неразумныя акцёры, якія працягваюць іграць і ў жыцці, напрыклад, суперменаў ці рамантычных гераінь. Звычайна акцёры чым больш таленавітыя, тым больш простыя і сціплыя, даступныя ў размовах.

Мая прафесія прыносіць мне радасць. Няхай два чалавекі ў зале — усё роўна спадзяешся на іх водгук. Вядома, публіка бывае розная: чулая ці, наадварот, — сытая і раўнадушная. Але да гэтага таксама трэба быць гатовым. Толькі не варта насільна зацягваць на спектакль хлопчыкаў і дзяўчынак са школ і ПТВ — гэта жахліва. У тэатр ходзяць па добрай волі. Як усё павінна рабіцца па добрай волі...

**Дыялога не выйшла, але я не шкадую. Таму што ў маналогу Расціслава Янкоўскага — адказы на пытанні, якія без стомы ў мностве задае нам жыццё. І яшчэ адно: акцёр не раз вяртаўся да слова "ненасілле". Упэўнена, што гэта тая самая ідэя, якая павінна прарасці ў свядомасці кожнага, асабліва на крывавым фоне падзей у Літве, Тбілісі, Карабаху, Персідскім заліве. "Сапраўдная культура патрабуе, каб усякая бойка паміж людзьмі і паміж нацыямі была зусім ліквідавана" — вось выпакутаваная думка вялікага рускага філосафа Уладзіміра Салаўёва. Але як яе ажыццявіць?**

**Напэўна, мае рацыю Расціслаў Янкоўскі: трэба палюбіць свае кайданы. Селяніну — поле, настаўніку — вучняў, прадаўцу — пакупнікоў, акцёру — бясконцыя рэпетыцыі і г. д. Глядзіш — усё ў нас у краіне і арганізуецца да лепшага.**

**Ніна ЗЛАТКОЎСКАЯ.**

*З АСАБІСТАЙ КАЛЕКЦЫІ*

# ПІСЬМЫ ПРА МІЛАСЭРНАСЦЬ

Міласэрнасць і дабрачыннасць. Гэтыя словы зноў вярнуліся да нас з забыцця, ускалыхнулі думкі і сэрцы людзей. Міласэрнасць заўсёды была ўласцівай для беларускага народа. Таму ёсць шмат сведчанняў. Адно з іх — гэта пісьмы, што захоўваюцца ў маёй калекцыі і адносяцца да перыяду 1914—1916 гадоў. Пісьмы гэтыя расказваюць аб дзейнасці Чучэвіцкай царкоўнапрыходскай школы і дзіцячага прытулку (сёння — вёска Вялікія Чучэвічы Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці).

Гады першай сусветнай вайны прынеслі шмат пакут беларускаму народу. Асабліва тым часова акупіраваным раёнам, дзе праходзілі баі. Сем'і засталіся без бацькоў, старэйшых сыноў, якіх прызвалі ў армію. Адсутнасць карміцеляў у сем'ях выклікала з'яўленне сірот, бежанцаў. Яны не былі пакінуты на волю лёсу. Аб іх клапаціліся ўсемагчымыя камітэты, папячыцельскія таварыствы, а таксама царква і школа.

У пачатку XX стагоддзя ўсе царкоўнапрыходскія школы Чучэвіцкага прыходу знаходзіліся ў падпарадкаванні Мазырскага павятовага аддзялення Мінскага епархіяльнага вучылішчнага савета. У студзені 1915 года гэты савет накіраваў загадчыку царкоўных школ Чучэвіцкага прыходу цыркуляр, змест якога не мае патрэбы ні ў каментарыях, ні ў пераказе. Таму я прывяду тэкст пісьма поўнасцю: "У мэтах выканання тэрміновай прапановы Епархіяльнага вучылішчнага савета аб прыняцці пад асобую апеку дзяцей прызваных на ваенную службу асоб і аб раздачы такім дзецям адзення, абутку, вучэбных прылад, а таксама аб арганізацыі для іх бясплатных снеданняў і начлежных прытулкаў павятовае аддзяленне пакорна просіць... выявіць пры дапомозе царкоўна-школьнага папячыцельства колькасць дзяцей, ступень іх патрэбы і спосабы яе задавальнення, прыцягнуць да матэрыяльнай дапамогі дабрачынцаў з мясцовых прыхаджан..." Пісьму 75 гадоў, а як надзённа гучыць.

Мяркуючы па пісьмах, што маюцца ў маёй філатэлістычнай калекцыі, відаць, у пачатку 1915 года ў вёсцы Чучэвічы быў арганізаваны прытулак-яслі для сірот. Дакладнай даты стварэння гэтага прытулку ўстанавіць пакуль не ўдалося, як і месца яго размяшчэння, колькасць дзяцей, іх узрост, прозвішчы. Аб існаванні гэтага прытулку гаворыць пісьмо вучылішчнага савета загадчыку Чучэвіцкай царкоўнапрыходскай школы ад 9 ліпеня 1915 года. У гэтым пісьме савет паведамляе "аб водпуску... 28 рублёў на расходы па прытулку-яслях" і просіць паведаміць, "з якога менавіта часу, дзе і пры якой колькасці сірот адкрыты прытулак". У гэтым жа пісьме ўтрымліваецца просьба аб спісе дзяцей-сірот.

Сярод пісем калекцыі ёсць і цыркуляр, у якім вучылішчны савет рэкамендуе залучыць навучэнцаў школ для аказання дапамогі бежанцам, іх дзецям.

Аб жыцці, дзейнасці, працэсе вучобы царкоўнапрыходскіх школ мы ведаем мала, часцей за ўсё гэтыя веды абмяжоўваюцца стэрэатыпам: усе выкладчыкі — свяшчэннікі, асноўны прадмет — закон божы. Таму хачу расказаць яшчэ аб двух пісьмах, што адносяцца да дзейнасці царкоўнапрыходскай школы ў вёсцы Чучэвічы. У адным з пісьмаў размова ідзе аб падпісцы на часопіс для школы. У снежні 1913 года вучылішчны савет рэкамендаваў, "прызнаючы за часопісам "Русский паломник" лёгкае, агульнадаступнае павучальнае чытанне, якое развівае ўсведамленне маральнага абавязку, душу дзяцей і дарослых. Савет просіць выпісаць "Русский паломник" на мясцовыя сродкі". Для Чучэвіцкай школы часопіс быў выпісаны за кошт земскай дапамогі. Тады ж школьнікам вёскі была падорана падпіска на часопіс "Родник" — штомесячнае выданне для сям'і і школы. На жаль, у пісьме не ўказаны дарыльшчык падпіскі.

Гэта гістарычныя карцінкі з жыцця вёскі Чучэвічы ў 1913—1916 гадах, прачытаныя па пісьмах маёй калекцыі.

**ЛЕЎ КОЛАСАЎ.**

*СПОРТ*



**Імя алімпійскай чэмпіёнкі па лёгкай атлетыцы заслужанага майстра спорту Таццяны Лядоўскай вядома ў Беларусі і за яе межамі. Спартыўная слава да маладой спартсменкі прыйшла ў далёкім Сеуле на апошніх Алімпійскіх гульнях, дзе Таццяна стала чэмпіёнкай у эстафетным бегу на 400 метраў і сярэбраным прызёрам у бегу на 400 метраў з бар'ерамі.**

**Пад кіраўніцтвам свайго настаўніка заслужанага трэнера СССР Анатоля Бадуева яна дабівалася перамог і ў многіх міжнародных і ўсесаюзных спаборніцтвах. А цяпер Анатоль Іванавіч разам з Лядоўскай трэніруе і фіналістку юніёрскага чэмпіянату свету Ірыну Скварчэўскую. Эстафету перамог, спадзяецца трэнер, ёсць каму прадоўжыць.**

НА ЗДЫМКУ: заслужаны трэнер СССР Анатоль БАДУЕЎ са сваімі выхаванкамі Таццянай ЛЯДОЎСКАЙ (справа) і Ірынай СКВАРЧЭЎСКАЙ.

Фота Г. СЯМЁНАВА.



*НАШЫ ВЫТОКІ*

# У ЛЕПШЫХ ТРАДЫЦЫЯХ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ

**Каваныя макі, незвычайныя лялькі ў прыгожых нацыянальных строях з ільну і карункаў, унікальная разьба па дрэву, арыгінальныя саламяныя капелюшы і карзінкі з лазы, традыцыйная беларуская кераміка — усё гэта прадстаўлена ў экспазіцыі рэспубліканскай выстаўкі "Майстар і традыцыя". У залах мінскага Палаца мастацтва сабраны работы таленавітых умельцаў, аб'яднаных Таварыствам майстроў народнай творчасці Беларусі пры ўдзеле Таварыства майстроў народнага мастацкага фонду Рэрыхаў. Работы, што ўвайшлі ў экспазіцыю, выкананы ў лепшых традыцыях самабытнай народнай творчасці, радуюць вока бездакорнасцю выканання, лаканічнасцю форм, прыгажосцю народных матываў.**

НА ЗДЫМКАХ: інжынер-электрык Аляксандр ГРЭСЬ захоплена працуе з саломай і лазой; гэтае пано стварыў мінчанін Леанід ЖДАНАЎ; серыю лялек у нацыянальных строях прадстаўляе Ірына ОСЬКІНА.

Фота Я. КАЗЮЛІ.







РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Заказ № 823.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12